Кніганоша
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
№ 16
кастрычнік, 2012
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## АЎТОГРАФ

# Сяржук СЫС: «Я доўга шукаў самога сябе ў жыцці...»



**– Шаноўны Сяргей Анатольевіч, выхад Вашага першага зборніка паэзіі «Стрэмка» быў прымеркаваны да 50-годдзя, хоць Вы пачалі друкавацца яшчэ ў студэнцкія гады. Чаму шлях да першай кнігі быў такім доўгім?**

– Сапраўды, шмат вады сплыло за той час, калі мог бы мець паэтычную кнігу. Прынамсі, мой першы верш быў надрукаваны ў рэспубліканскім друку яшчэ ў 1975 годзе, а больш-менш сур'ёзная публікацыя з'явілася ў «Маладосці» ў 1986 годзе. Такі доўгі шлях да першай кнігі можна было б патлумачыць рознымі прычынамі. Я часам апраўдваў сябе так: «жыццё доўгае, паспею», альбо: «дачакаюся добрай прапановы ад выдавецтва». Пазней суцяшаў сябе тым, што «ёсць інтэрнэт, і там жывуць мае вершы». Тым часам ішлі гады, аж пакуль прыйшло сапраўды рэальнае разуменне гэтае прычыны.

Пра гэта, дарэчы, зусім нядаўна напісаў і мой сябар Алесь Бяляцкі ў артыкуле «Светлы смутак па вечнай Радзіме»: «Ішоў да гэтай кніжкі ён доўга. Дасюль у яго магло быць ужо і некалькі кніжак, прынамсі, напісаных Сержуком вершаў хапіла б на іх. Але магло быць і так, што і гэтая кніжка не з'явілася б. Чаму? Дзеля гэтага трэба ведаць характар, натуру майго сябра. А натура і тэмперамент у яго – о-го-го!»

Бяляцкі тут у многім мае рацыю. Шчыра прызнаюся, што да першай паэтычнай кнігі многія гады ставіўся ўвогуле як да праграмнага дзейства, як да кнігі, якая задае далейшы творчы кірунак і вызначае жыццёвае крэда, прыхаванае ў розных мастацкіх штучках: вобразах, параўнаннях, метафарах і алітэрацыях. Я ж доўга, цягам дзесяцігоддзяў, шукаў самога сябе ў жыцці. Прывяду толькі кавалак сваёй працоўнай біяграфіі: грузчык, экспедытар, настаўнік, журналіст, таваразнаўца, рэкламны спецыяліст, намеснік дырэктара сырнай фабрыкі. Дык, прызнаюся, нават гэтыя працоўныя хістанні толькі ў малой ступені адлюстроўваюць больш глыбокія пошукі «Я» ва ўласнай душы. Нарэшце, здаецца, прыйшло разуменне сябе, недзе блізка да свайго пяцідзесяцігоддзя. Тады і склалася асэнсавана першая паэтычная «Стрэмка». Можа, і запозна, але затое гарманічна.

**– У кнізе прысвячэнняў Анатолю Сысу «Ягамосьць» ёсць Ваш верш-прысвячэнне: «Дагадзіў жа ты мне, Анатоль, //дагадзіў… //Хоць тваімі шляхамі //амаль не хадзіў…». Анатоль Сыс быў для вас не проста земляком і сябрам. А кім?**

– Мне досыць часта даводзіцца адказваць на гэтае пытанне: «Хто ён быў для Вас?» Дзіўна, але з кожным разам гэта рабіць усё цяжэй і цяжэй. На жаль, я не магу адназначна і проста адказаць на яго. Я шмат разважаў на гэты конт, і з гэтых развалажанняў нават цэлы артыкул можна напісаць.

Сапраўды, для мяне Анатоль найперш быў земляком, простым і шчырым, старэйшым і ў нечым больш дасведчаным таварышам. Напрыклад, выправіўшыся з

*(Працяг на стар. 8)*

### Даведка «Кніганошы»:

**Сяржук Сыс (Сяргей Анатольевіч Сыс) – паэт, перакладчык, публіцыст. Друкаваўся ў рэспубліканскіх і замежных выданнях; аўтар калектыўных зборнікаў і анталогіяў, а таксама кніг паэзіі «За трапяткім матыльком кахання» (2000 г.) і «Стрэмка». Творы перакладаліся на ангельскую, польскую, расійскую, украінскую, літоўскую і сербскую мовы. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Пракісель Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Жыве ў Мінску.**

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Качаткова Паліна. Матылі: навелы. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 144 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 29).**

Паліна Качаткова атрымала вядомасць дзякуючы напісанню сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Новае выданне – гэта першая кніга мастацкай прозы аўтара. Чытайце – і здзіўляйцеся. Кніга мае падзагаловак, які адыгрывае ролю своеасаблівага эпіграфу: «Ёсць словы, якія не варта казаць. Ёсць рэчы, пра якія лепш не ведаць».




**Шалкевіч Віктар. Мястэчка G… …і ваколіцы…: дзевятнаццаць апавяданняў і п’еса. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 112 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 30).**

Гэтая кніга перадусім не прамястэчка G. і ваколіцы, а пра людзей, якія там жылі, таму, што без людзей любое мястэчка робіцца звыклаю горбаю камення. Гэтая кніга пра нашую прыгожую страчаную Айчыну – Вялікае Княства Літоўскае… Яго даўно няма на мапах, тым не менш яно дзесьці глыбока сядзіць у кожным з нас…




**Тарасаў Кастусь. Выбраныя творы. Уклад. і камент. Г. Тарасавай, К. Цвіркі, прадм. У. Арлова. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 592 с.: [8] с. іл. – («Беларускі кнігазбор»: Серыя І. Мастацкая літаратура).**

Кастусь Тарасаў (1940–2010) – пісьменнік гістарычнай тэматыкі. У сваіх творах праз жывыя мастацкія вобразы ўваскрасіў многія старонкі нашай мінуўшчыны. У аднатомнік увайшлі раман «Пагоня на Грунвальд», аповесць «Скарб Нясвіжскага замка», гістарычныя нарысы і эсэ. Шэсцьдзесят першы том вялікага кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».




**Танк Максім. Абвяржэнне: сто выбраных вершаў. Уклад. Андрэй Хадановіч; паслямова Альгерда Бахарэвіча. – Мінск: Логвінаў, 2012. – 132 с. – (Серыя «Я кнігу маю»).**

«Некалі Вальтэр так сказаў пра свой збор твораў, дзе было каля сотні тамоў: “З такім багажом да нашчадкаў не даехаць”. У гэтую кнігу ўвайшлі толькі 100 вершаў, але тыя, што з пэўнасцю «даехалі да нашчадкаў». Тыя, што належаць да корпусу найлепшай беларускай паэзіі XX стагоддзя – і, безумоўна, будуць цікавыя чытачам у XXI. У зборніку няма вершаў, якія нас з-пад палкі прымушалі вучыць у школе. Але і школьнікам кніжка прыдасца: напрыклад, каб паказаць настаўнікам класнага паэта, якога яны яшчэ не ведалі», – піша ў прадмове ўкладальнік.




**Кулон Антон. Сіняя кніга беларускага алкаголіка. – Мінск: Логвінаў, 2012. – 304 с.**

Чаму ж людзі п’юць? Чаму піў я? І што такое п’янства? Я мяркую, што п’янства – гэта шуканне духоўнасці, шуканне іншага духоўнага стану, бо існы не задавальняе нас. Але жыццё з алкаголем – асаблівы шлях. Алкаголь дорыць збавенне і радасць, ён прыносіць пакуты і гора і, урэшце, прыводзіць смерць. Я спрабую глянуць па-новаму на гэты асаблівы шлях і на людзей, якія йдуць тою цяжкой, сапраўды, ваеннай, дарогай. Пара адкінуць замшэлыя, стэрэатыпныя, погляды на алкагольную праблему ды зразумець: алкагольная залежнасць – гэта сур’ёзнае захворванне, алкаголік – гэта не нейкі там чужы, сметнікавы бомж, а ваш блізкі сябра, ваш знаёмы пісьменнік, мастак, славуты рок-музыка і оперны спявак. А мажліва – гэта вы.




**Шамецька Юрась. Шлях да вяртання: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 96 с.**

«Шлях да вяртання» – так сімвалічна назваў сваю першую кнігу Юрась Шамецька. Нарадзіўся ён у Мінску, дзе скончыў радыётэхнічны інстытут, а з 1997-га жыве і працуе ў Канадзе. Першыя публікацыі яго вершаў у альманаху «Беларусь», у часопісах «Маладосць» і «Дзеяслоў» выклікалі зацікаўлены водгук не толькі чытачоў, але і крытыкаў, літаратуразнаўцаў. І гэта натуральна, бо вершы Юрася Шамецькі шматасацыятыўныя, шчырыя пачуццямі і думкамі, пашыраюць прастору беларускай паэзіі.




**Арабей Лідзія. Горкія ягады: аповесці, апавяданні, нарысы, абразкі. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 292 с.**

Жыццё пражыць – не поле перайсці. Безліч на гэтым шляху перашкод, цяжкасцяў, крыўд, безліч зроблена памылак... Новая кніга вядомай беларускай пісьменніцы Лідзіі Арабей не пакіне раўнадушным чытача. У ёй сабраныя аповесці, апавяданні, нарысы, абразкі, напісаныя за апошнія гады.




**Мароз Уладзімір. Шляхцянка-восень: лірыка любові й кахання. – Мінск: Зміцер Колас, 2012. – 140 с.**

Спрадвечная тэма кахання ў кнізе Уладзіміра Мароза ёсць адбіткам уласнага жыцця, сагрэтага цеплынёю любові. Вершы зборніка прасякнуты верай у перамогу дабра над злом, вылучаюцца шчырасцю інтанацыі, пачуццёвай безабароннасцю, светлай лірычнасцю. Кніга адрасуецца шырокай чытацкай аўдыторыі, але найперш, зразумела, тым, хто жыве каханнем.

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА



**Арлоў Уладзімір. Сьвецяцца вокны ды нікога за імі: вершы. – Мінск: Логвінаў, 2012. – 400 с.**

Уладзімір Арлоў выдаў пяць паэтычных кніг. Адна з іх – «Пapом праз Ла-Манш», перастворaная па-польску знакамітым перакладчыкам Адамам Паморскім, – прынесла аўтару міжнародную прэмію «Еўрапейскі паэт свабоды» (Гданьск, 2010). Пад гэтаю вокладкай выбраныя вершы мінулых гадоў сустрэліся з напісанымі ў апошні час. Падтрымліваючы даўнюю традыцыю беларускай лацінкі, Уладзімір Арлоў выпускае сваю новую кнігу ў дзвюх версіях.




**Паміж №10: Літаратурны і філасофскі часопіс. Выпуск 10. – Мінск: Логвінаў, 2012. – 189 с.**

Нашае цела не маналітнае. Яго складаюць цяжкія матэрыі (цягліцы, косткі), цякучыя плыні (кроў, лімфа) і нябачныя сецівы (нервы)… Так і літаратурны працэс, дый увогуле інтэлектуальная дзейнасць... У нумары «Паміж/Анатомія» прэпаруецца быццё, штодзённасць, мова і ўсё, да чаго дабраліся маладыя творцы, навучэнцы «Беларускага Калегіюма». І не проста спазіраюць, а заглыбляюцца ўсярэдзіну і спасцігаюць цела творчасці.




**Багданкевіч Святлана. Напрадвесні: вершы і пераклады. – Мінск: Ковчег, 2012. – 134 с.**

Першая кніга паэзіі С. Багданкевіч змяшчае выбраныя вершы з ліку тых, што пісаліся на працягу двух апошніх дзесяцігоддзяў. У іх паэтка адгукаецца на самыя розныя праявы жыцця, яе хвалюе лёс Бацькаўшчыны, роднай мовы, свабоды і незалежнасці, натхняюць вечныя тэмы чалавечага існавання. Яе вершы разнастайныя не толькі па тэматыцы, але і па форме. Асобны раздзел кнігі складаюць пераклады з польскай паэзіі.




**Юхнавец Янка. Паэзія. Уклад., прадм. і камент. Л. Юрэвіч; пад рэд. Н. Гардзіенкі. – Мінск: Лімарыус, 2012. – 620 с.: іл. – (Галасы Айчыны).**

Кніга паэзіі Янкі Юхнаўца (1921–2004) – унікальнае выданне паэтычнай спадчыны эміграцыйнага творцы, дзе сабраныя разам вершы і паэмы з усіх выдадзеных аўтарам зборнікаў, а таксама не ўвайшоўшыя ў іх, з якімі чытачы пазнаёмяцца ўпершыню. Паэт, што нарадзіўся ў в. Забродак (сёння Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.), у часе нямецкай акупацыі быў вывезены на працы ў Германію, адкуль у пасляваенны час перабраўся ў ЗША. Выданне поўнага збору паэтычных твораў Я. Юхнаўца знаёміць аматараў беларускай паэзіі з яшчэ адным таленавітым і самабытным творцам і павінна паспрыяць больш пільнай увазе чытачоў і спецыялістаў да яго літаратурнай спадчыны.




**Цвітуць сланечнікі: украінская проза ў перакладах: Іван Грэкуляк, Наталля Радыш, Пятро Франко. Пер. з укр. мовы Юрыя Кур'яновіча; ілюстрацыі Юрыя Кур'яновіча. – Мінск: Друк-С, 2012. – 72 с.**

У кнігу ўвайшлі апавяданні заходнеўкраінскіх пісьменнікаў: Івана Грэкуляка і Наталлі Радыш з Пакуцця (паўднёва-ўсходняй частскі Івана-Франкоўскай вобласці), а таксама Пятра Франко (1890–1941) – вядомага ўкраінскага навукоўца-хіміка і аднаго з першых украінскіх авіятараў, сына вялікага Каменяра. У перакладзе на беларускую мову творы друкуюцца ўпершыню.




**Ергавіч Міленка. Іншала, Мадона, іншала: апавяданні. Пераклад з баснійскай мовы Сяргея Шупы. – Мінск: Зміцер Колас, 2012. – 466 с. – (Littera scripta).**

«Іншала, Мадона, іншала» – зборнік апавяданняў, у якіх мяшаюцца Захад і Усход, учора і сёння, хрысціяне і мусульмане, Асманская і Габсбургская імперыі, старая і новая Югаславія, харваты, баснійцы, сербы, чорныя, белыя… Адзінай канстантай застаецца Боснія. Гэтая кніга напісана не словамі, а тугою і любоўю.




**Родничок. Хрестоматия для детей младшего школьного возраста. Сост. Р. Шастак. – 6-е изд. – Минск «Родиола-плюс», 2011, – 528 с.: ил.**

У кнізе сабраныя і праілюстраваныя народныя казкі і творы сусветна вядомых пісьменнікаў-казачнікаў, а таксама вершы, апавяданні і іншыя творы і ўрыўкі з іх, напісаныя як беларускімі, так і замежнымі аўтарамі. Кніжка друкуецца ўжо шостым накладам і не губляе сваёй актуальнасці. Для дзяцей малодшага школьнага ўзросту і іх бацькоў.




**Арабейка Іван. Сказаць хачу: вершы. – Брэст: Альтернатива, 2012. – 92 с: іл.**

Новую кнігу выдатнага беларускага паэта Івана Арабейкі чытачы чакалі доўга. Ад дзвюх папярэдніх яе аддзяляе некалькі дзесяцігоддзяў. Але паэт, які ў мінулую вясну адзначыў сваё 70-годдзе, не толькі не згубіў свежасці лірычнага голасу, а, наадварот, расшырыў дыяпазон сваёй мелодыкі, узбагаціў яе мудрасцю ўзросту. І не выпадкова кніга мае назву – «Сказаць хачу». Івану Арабейку ёсць што сказаць чытачу, перадаўшы яму сваё бачанне свету, сваю любоў да роднай зямлі.

# «Вальнейшы за тых, хто на волі» – сябры адзначылі юбілей Алеся Бяляцкага



25 верасня ў галерэі «Ў» прайшло святкаванне пяцідзесяцігоддзя Алеся Бяляцкага, на якое сабраліся яго калегі па створаным ім праваабарончым цэнтры «Вясна», сябры, якія ведаюць Алеся з часоў юнацтва: журналісты,пісьменнікі, музыкі. Ад сям'і прысутнічала сястра Вольга. У гэты ж дзень сын Бяляцкага Адам і жонка Наталля ў Польшчы атрымлівалі за свайго бацьку і мужа ўзнагароду «Human Rights Defenders Award».

Вядоўцы імпрэзы Алена Лапцёнак і Эдуард Акулін адзначылі, што гэта сяброўская вечарына, на якой будуць згадваць Алеся як літаратуразнаўцу, музейшчыка і праваабаронцу. Тым наведнікам, якія яшчэ не паспелі яго павіншаваць, былі прапанаваныя паштоўкі, якія можна запоўніць і даслаць юбіляру, а таксама магчымасць запісаць відэа-віншаванне.

Першай выступіла Таццяна Рэвяка, разам з Бяляцкім яны працавалі ў літаратурным музеі Максіма Багдановіча і сталі ля вытокаў «Вясны». Яна расказала, наколькі важная для яе сябра сфера літаратуразнаўства, і пра тое, што да свайго 50-годдзя ён марыў выдаць кніжку сваіх прац за трыццаць гадоў. Паколькі Алесь цяпер за кратамі, яго кнігу падрыхтавала да друку Паліна Сцепаненка. Магчыма, яна будзе выдадзена ўжо ў кастрычніку.

«Самае галоўнае, што «Вясна» працягваецца», – сказала Таццяна Рэвяка – гэта тое, пра што прасіў яе Алесь Бяляцкі ў дзень свайго арышту. Яна выказала спадзяванне на тое, што вылучэнне на Нобелеўскую прэмію можа паспрыяць таму, што «Алесь у хуткім часе будзе з намі, на волі».

Наступным узяў слова даўні сябра Алеся Бяляцкага, старшыня ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Барыс Пятровіч. Ён згадваў першае апавяданне Бяляцкага, яго крытычную калонку ў «ЛіМе» і казаў пра сваё шкадаванне аб тым, што Алесь ахвяраваў сваім літаратурным талентам на карысць працы, магчыма, больш патрэбнай людзям — абароне іх правоў. Цяпер, у турме, Бяляцкі зноў вярнуўся да літаратурнай крытыкі.

Адна з трох кніг, якія былі ў турме пабеларуску, – кніга Хвядоса Шынклера. Артыкул Бяляцкага пра Шынклера можна прачытаць у часопісе «Дзеяслоў» № 59.

Наступным выступіў Вінцук Вячорка, які згадваў, як калісьці Алесь Бяляцкі закапаў на глыбіні 4,5 метраў шкляную бутэльку з прысягай змагацца за незалежную Беларусь. Далучыліся да віншаванняў юбіляра праваабаронца Гары Паганяйла, які перадаў Бяляцкаму падарунак праз яго сястру Вольгу, намеснік старшыні БАЖа Андрэй Бастунец, паэт Леанід Дранько-Майсюк, які гаварыў пра самавітае пісьмо віноўніка ўрачыстасці, дзе заўжды ёсць месца сур'ёзнай гутарцы.

Аляксандр Фядута расказаў пра тое, як складана даецца яму адказ на ліст і водгук Бяляцкага на яго вершы, бо ў словах, якія пішуцца за кратамі адсутнічае фальш, а «калі пішаш чалавеку, які знаходзіцца там, словы прыходзяць цяжка».

Слова таксама бралі паэт Міхась Скобла, блізкі сябар Язэп Янушкевіч. Журналіст Валер Каліноўскі, які стаў біёграфам Алеся Бяляцкага, расказаў пра сваю працу над кнігай «Справа Бяляцкага», што мусіць выйсці ўжо хутка.

Доктар філасофіі і тэалогіі Ірына Дубянецкая падзялілася ўспамінамі пра часы дырэктарства Алеся Бяляцкага ў музеі Багдановіча. Гэта быў унікальны час, калі супрацоўнікам дазволілі выбраць сабе дырэктара і так, нечакана для сябе, Бяляцкі атрымаў кіраўнічую пасаду ў дзяржаўнай установе. У музея было два будынкі, якія, дзякуючы новаму дырэктару, неўзабаве зрабіліся юрыдычным адрасам для прыкладна пяці дзясяткаў арганізацый.



«Я назіраю за тым, як, калі напаткала бяда, усё тое добрае, што рабіў Алесь Бяляцкі, пачало вяртацца да яго. Тысячы людзей падпісваліся за тое, каб узяць яго на парукі, каб да суда ён быў на волі», – сказала Ірына Дубянецкая і адзначыла, што Алесь Бяляцкі ў сілу свайго характару здольны быць вальнейшым за тых, хто на волі.

На вечарыне таксама былі зачытаны віншавальныя тэлеграмы юбіляру ад міжнародных праваабарончых арганізацый, у музычных паўзах прагучалі чатыры сюіты старадаўняй беларускай музыкі ў выкананні музычнага калектыва «Класік-Авангард», якім кіруе заслужаны дзеяч мастацтва Беларусі Уладзімір Байдаў.

**Прэсавая служба СБП**

# ■ НАВУКА/ПУБЛІЦЫСТЫКА/ДАВЕДНІКІ




**Зорны шлях. Да 100-годдзя Барыса Кіта. Уклад. Лідзія Савік. – Мінск.: Кнігазбор, 2012. – 112 с.**

Саюз беларускіх пісьменнікаў і Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» выдалі кнігу, прысвечаную 100-гадоваму юбілею «найпершага беларуса з беларусаў свету» як назваў Барыса Уладзіміравіча Васіль Быкаў. Кніга так і называецца «Зорны шлях». Укладанне зрабіла давераная асоба і першы біёграф Барыса Кіта Лідзія Савік. У кнізе сабраны прысвечаныя юбіляру артыкулы, інтэрв'ю і матэрыялы апошніх гадоў, у тым ліку вершы Рыгора Барадуліна, Вольгі Іпатавай, Сяргея Законнікава, Васіля Жуковіча, прысвечаныя Барысу Кіту. Таксама ў кнізе даецца хроніка жыцця славутага беларуса, звесткі пра гісторыю стварэння музея Барыса Кіта ў Навагрудку, каталог персанальнага архіва Барыса Кіта, які захоўваецца ў фондах Навагрудскага гістарычна-краязнаўчага музея.

На каляровай уклейцы ў сярэдзіне кнігі сабраны фотаздымкі з экспазіцыі музея Барыса Кіта, з вечарыны, прысвечанай 100-годдзю Барыса Кіта ў Мінску, выявы дыпломаў Барыса Уладзіміравіча.



**Карповіч Ганна. Кніжна-эпіграматычная паэзія Вялікага Княства Літоўскага XVI ст. у кантэксце антычнай традыцыі. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 360 с.**

У кнізе разглядаецца кніжна-эпіграматычная паэзія Вялікага Княства Літоўскага XVI ст.: эпіграмы на гербы, вершаваныя прысвячэнні, звароты да аўтара, чытача і крытыка з віленскіх, брэсцкіх і лоскіх старадрукаў. Аўтар прасочвае сувязь рэнесансавых вершаў з антычнай традыцыяй на ўзроўні топікі, асобасных узораў, грамадска-філасофскіх і культурных канцэптаў. Кніга будзе карысная філолагам, гісторыкам і ўсім, хто цікавіцца культурай Вялікага Княства Літоўскага.




**Чыгрын Сяргей. Такі іх лёс: гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя артыкулы. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 200 с.**

Аўтар кнігі распавядае пра няпросты і трагічны лёс вядомых і малавядомых беларусаў нашай Бацькаўшчыны. Шмат новага чытачы даведаюцца пра генерала 1812 года Яна Канопку, пра беларускіх святароў Філафея і Паўла Лысуху, легендарнага доктара Усевалада Шырана, спявачку Яўгенію Чарняўскую-Орса, палітыка і гісторыка Міколу Шкялёнка, а таксама пра Рыгора Шырму, Якуба Міско, Вацлава Ластоўскага, Гальяша Леўчыка, Янука Дарашкевіча, Валянціна Таўлая, Аляксандра Чыжэўскага, Міхала Федароўскага, братоў Артымовічаў, Ларысу Геніюш, Міхася Забэйду-Суміцкага, Ігната Буйніцкага і іншых вялікіх людзей беларускай зямлі.




**Данілюк Барыс. Азіраючыся расой выетымі вачыма: успаміны. Прадм. А. Пашкевіча, камент. А. Пашкевіча, Н. Гардзіенкі, А. Гардзіенкі. – Мінск: Лімарыус, – 2012. – 524 с. іл. – (Беларуская мемуарная бібліятэка).**

Ва ўспамінах вядомага дзеяча беларускай грамады ў ЗША Барыса Данілюка (1923–2011) найбольш поўна і падрабязна адлюстраваліся падзеі дзяцінства, юнацтва і маладосці аўтара, што прайшлі ў Заходняй Беларусі ў часы польскай, савецкай і нямецкай акупацый. Згадваецца таксама перыяд бежанства ў Заходняй Германіі ды эміграцыі ў ЗША. Каштоўнымі побытавымі замалёўкамі, падрабязнасцямі штодзённага жыцця ўспаміны будуць цікавымі як навукоўцам, гэтак і ўсім аматарам беларускай гісторыі і культуры.




**Деды: дайджест публикаций о беларуской истории. Выпуск 10. Составление, научное редактирование А. Е. Тараса. – Минск: Харвест, 2012. – 304 с.**

Матэрыялы дзясятага выпуска дайджэста згрупаваныя ў чатырох тэматычных раздзелах. Яны прысвечаны, адпаведна, пытанням нашай старажытнай гісторыі, гісторыі беларусаў у ХХ стагоддзі, праблемам беларускага менталітэту і некаторым падзеям бягучага жыцця. Усяго ў выпуску 23 матэрыялы, 190 ілюстрацыяў, у тым ліку 8 карт.




**Вялікі беларус Леў Сапега: Зборнік артыкулаў. – Рыга: Выданне Інстытута беларускай гісторыі і культуры, 2012. – 272 с.**

У зборніку сабраныя працы чатырох даследчыкаў: Анатоля Грыцкевіча, Вітаўта Чаропкі, Мікалая Шкялёнка і Станіслава Лазуткі. Усе разам, яны даюць добрае ўяўленне пра жыццёвы шлях Льва Сапегі, яго дзяржаўную дзейнасць, грамадска-палітычныя і філасофскія погляды.




**Валіцкі Анджэй. Нацыя, нацыяналізм, патрыятызм. Уступ Анджэя Мэнцвэля; пераклад з польскай А. Ластоўскага; навук. рэд. Г. Сагановіч. – Мінск: Медысонт, 2012. – 528 с. – (Бібліятэка часопіса «Беларускі Гістарычны Агляд»).**

У кнігу вядомага польскага гісторыка філасофіі і грамадскай думкі ўвайшлі працы, аб'яднаныя адной тэмай – праблемай нацыі ў польскім мысленні пасля падзелаў даўняй Рэчы Паспалітай. Аўтар імкнецца крытычна даследаваць розныя плыні нацыянальных ідэалогіяў у Польшчы ад шляхецкай дэмакратыі да 1918 г., выкарыстоўваючы інструментарый заходніх тэарэтыкаў нацыі. Выданне разлічана на гісторыкаў, этнолагаў, культуролагаў і палітолагаў.




**Краўцэвіч Алесь. Гедымін (1316–1341). Каралеўства Літвы і Русі / Hiedymin (1316–1341). Kingdom of Lithuania and Ruthenia: нарыс. Пераклад на англійскую мову Андрэя Бурсава; пад агульнай рэдакцыяй Міхася Скоблы; мастак Ігар Гардзіёнак. – Мінск: Татарнікава С. Ю., 2012. – 152 с.: іл. – (Жыццяпіс вялікіх князёў літоўскіх = The Lives of the Great Dukes of Lithuania).**

Нарыс з серыі «Жыццяпіс вялікіх князёў літоўскіх», прысвечаны вялікаму князю Гедыміну, напісаны прафесійным гісторыкам. Усе пададзеныя гістарычныя факты, а таксама высновы аўтара грунтуюцца на навуковым аналізе гістарычных крыніц. Кніга будзе прыдатная як тым, хто навучаецца ці вучыць гісторыю, так і ўсім аматарам.




**Краіна Беларусь. Вялікае Кнства Літоўскае: ілюстраваная гісторыя. Аўтар тэксту Уладзімір Арлоў, мастак Зьміцер Герасімовіч, рэдактар Зьміцер Санько. – Kalligram, spol s r. o., 2012. – 400 с.**

Кніга ў пэўным сэнсе з'яўляецца працягам папулярнага ілюстраванага выдання «Краіна Беларусь». Займальная і даступная для чытача любога ўзросту, яна прысвечаная найцікавейшай эпосе нашай мінуўшчыны – часам Вялікага Княства Літоўскага. У гэтай магутнай еўрапейскай дзяржаве, дзе скансалідаваўся беларускі народ, беларускія землі адыгрывалі вызначальную ролю, а беларуская мова была дзяржаўнай. Сваёй гістарычнай радзімаю Вялікае Княства Літоўскае лічаць і летувісы, і ўкраінцы, якія доўгі час жылі з беларусамі ў агульнай краіне, а таксама беларускія татары і габрэі-літвакі. Аднак гэтая кніга мае на мэце расказаць найперш пра дзяржаватворчую ролю нашых продкаў. На аснове гістарычных фактаў кніга даводзіць, што Вялікае Княства Літоўскае – наша дзяржава, а найменні «Літва» і «ліцвіны» на працягу некалькіх стагоддзяў былі назовам Беларусі і беларусаў.




**Краіна Беларусь. Ілюстраваная гісторыя. Выданне другое, дапрацаванае. Тэкст Уладзіміра Арлова, мастак Зьміцер Герасімовіч, рэдактар Зьміцер Санько. – Kalligram, spol. s r.o., 2012. – 400 с.**

Займальная і даступная для чытача любога ўзросту, гэтая кніга ўводзіць у свет нашай мінуўшчыны ад найстаражытнейшых часоў да пачатку XX стагоддзя. На яе старонках вы сустрэнецеся з выдатнымі гістарычнымі асобамі, даведаецеся пра жыццё і побыт, вайсковыя перамогі і культурныя дасягненні беларусаў у розныя эпохі. У кнізе змешчаныя блізу дзвюх тысячаў ілюстрацыяў, у тым ліку ўнікальныя летапісныя мініяцюры, сярэднявечныя гравюры, рэдкія фотаздымкі. Шмат якія ілюстрацыі беларускаму чытачу дагэтуль былі невядомыя. Гісторыя нашай краіны разглядаецца як частка агульнаеўрапейскага руху цывілізацыі.




**Жыццё і лёс Адама Чопчыца (Да 90-годдзя з дня нараджэння): Славутаму дзеячу культуры Беларусі Адаму Сідаравічу Чопчыцу прысвячаецца; Уклад. М. А. Козенка. – Мінск: Четыре четверти, 2012. – 200 с.**

Кніга прысвечана 90-годдзю з дня нараджэння А. С. Чопчыца, вядомага дзеяча ў галіне беларускай нацыянальнай музычнай культуры, знакамітага хормайстра і педагога, аўтара вучэбных праграмаў і метадычных дапаможнікаў па музыцы, стваральніка і мастацкага кіраўніка аднаго з першых у Беларусі аматарскага ансамбля песні і танца «Нёман» Гродзенскага гарадскога Дома культуры. Успаміны родных, калегаў, сяброў і вучняў раскрываюць шматгранны талент асобы Адама Сідаравіча, яго жыццё і лёс. Кніга ілюстраваная фотаздымкамі, даюцца ўзоры ўласнай творчасці асобы і яго паслядоўніка – сына Аляксандра Адамавіча Чопчыца, кампазітара. Адрасуецца выкладчыкам і студэнтам, магістрантам і аспірантам гуманітарных і музычных навучальных установаў, а таксама калектывам аматарскай творчасці і ўсім, каго цікавіць гісторыя культуры Беларусі.




**Шумскі Ян. Саветызацыя Заходняй Беларусі (1944–1953 г.). Прапаганда і адукацыя на службе ідэалогіі. – Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2012. – 327 с.**

Гэтая кніга пра тое, як другія саветы асталёўваліся ў Заходняй Беларусі, пачынаючы з 1944 г. Насуперак афіцыйнай догме, саветызацыя тут суправаджалася масавым незадавальненнем насельніцтва (у прыватнасці, моладзь хавалася ў лясах ад мабілізацыі ў савецкае войска) і, як вынік, масавымі рэпрэсіямі супраць яго. Шумскі паказвае, што п'янства, недавер да мясцовых кадраў, распуста, тэрор былі неад'ёмным спадарожнікам сталінскага апарату ўлады. Гэтая кніга таксама прэзентуе нарыс пасляваенных рухаў супраціву ў Беларусі – уласна беларускага, польскага, украінскага і літоўскага. Кніга багата ілюстраваная, у тым ліку каляровымі ілюстрацыямі. Шмат для каго змешчаныя ў ёй факты будуць адкрыццём, бо раскрываюць маштаб фальсіфікацыі нашай нядаўнай мінуўшчыны.




**Булыко, А. Н., Булыко, Х. П. Новейший белорусско-русский, русско-белорусский словарь. Авт.-сост. А. Н. Булыко, Х. П. Булыко. – Минск: Родиола-плюс, 2012. – 608 с.**

Выданне падрыхтаванае з улікам «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», зацверджанымі Законам Рэспублікі Беларусь ад 23 ліпеня 2008 года, якія ўступілі ў сілу з 1 верасня 2010 года. Слоўнік уключае каля 42 000 лексічных адзінак. Адрасуецца шырокаму колу карыстальнікаў.

# «А найлепшыя – сарматкі...»




**Багдановіч Ірына. Душа лістападу: вершы, пераклады. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 100 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 28).**

Прачытаўшы кніжку, думаеш:

Паэты – патрыёты? Яшчэ якія! Жарсныя. Пяшчотныя. Патрыёты сваёй стыхіі. Мары. Улюбёнага надвор'я ці сузор'я. Краіны, часіны, мясціны, планеты – не заўсёды пазначаных у біяграфічнай даведцы. Зачараваны кут – вобраз радзімы ў творчасці паэта.

А што наконт вобразу паэта? О, тут багатая традыцыя!.. Прарок, мысляр, ганчар, званар, штукар… Гаротнік, самотнік, сухотнік, адлётнік, залётнік… Ласун, цынік, вернік, вершнік, воўк… Вядзьмак, святар, анёл, кніжнік, вандроўнік, прайдзісвет, ніхто… Сабака, птушка, не-паэт, раб, цар, бог, дзівак, нямко… Актор, трубадур (пясняр, дудар, гусляр, лірнік), зорка, сонца, блазан, карпеч… Ваяр, вар'ят…

Намацаўшы радзіму сваёй душы, яны вызнаюць яе скрозь. Беларускія паэты: афрыканцы, германцы, эліны, рымляне, ліцвіны, яцвягі, даосы, тыбетцы, самураі…

«Ды найлепшыя – сарматкі», – чытаем у новай кніжцы Ірыны Багдановіч «Душа Лістападу», выдадзенай сёлета Кнігарняй пісьменніка. Гадоў колькі таму аматары паэзіі атрымалі ад Ірыны «Сармацкі Альбом» (2004). Вось жа, душа паэткі ўдакладняе свае каардынаты.

Я ж, даўніх сарматаў нягеглы патомак,
Сабе выбіраю да густу пярсцёнак –

з гэткаю сціпла-какетлівай годнасцю зазначае гераіня верша «Сармацкі бурштын».

Дарэчы, хто яны, тыя сарматы? Напаўказачныя качэўнікі, тыя, што на пачатку нашай эры насілі аздобленыя бурштынамі, перламі ды бісерам строі? Ці гэтыя, што згадалі пра тых у пазамінулым стагоддзі ў Рэчы Паспалітай – і натхніліся шляхотнымі продкамі?.. Як бы там ні было, мы прымаем ласкавае запрашэнне шаноўнай пані адведаць ейны «самаробны», як яна кажа, «светамір».

…А тут, апроч нас, «Яснавяльможныя госці»: вітаем шаноўных Дануту Бічэль, Галіну Твараногіч, Аляксея Каўку… Ларысу і Зоську… Ну, вядома ж, Максіма Кніжніка, якому нашая гаспадыня, таксама не абы-якая кніжніца, даводзіцца раднёй па прозвішчы… І Скарына, і Багушэвіч з Купалам, і Адам Міцкевіч, падобна, завіталі сюды невыпадкова… Гаспадыня апавядае пра месца, дзе часта гасцюе сама – «архіўнае жытло» ўнебаўзятых Паэтаў – узвышаўцаў, маладнякоўцаў, чые лёсы яна чытае, то плачучы, то смеючыся…

Дзеля пачатку яна прапануе нам – не, не каву і пакуль не віно – «Кароткі канспект паэтыкі» з «Тэорыяй» і «Хрэстаматыяй» верлібру, «Апраўданнем футурызму» і «Развагай трубадура», дзе герой, праштудыяваўшы «Канспект», вырашае «звярнуцца зноў да звыклага радка»:

хоць гэта не сучасна
не «гламурна»
затое традыцыйна
трубадурна

Зрэшты, паэт не можа не быць кніжнікам. Заўважаем на старонках яшчэ дагэтуль ніколі не ўжываныя альбо трывала забытыя, нядбайна згубленыя «на раздарожжах падзей» слоўцы, якія Ірына, ведаючы, дзе шукаць, пазнаходзіла і, умеючы, павынаходзіла: да прыкладу, памянёны ўжо шматзначны «светамір», гжэчныя «васпан» і «васпані», нязмушана-сцвярджальнае «АГА», шыкоўныя «вінагроздзя» ды іншыя.

А цяпер наспеў час падаваць віно. Гасцей атуляюць «Вінагроздзя кахання», і гучаць узнёслыя тосты за «Маладосці вечны дар», за «ліхтарні Сяброўства і Кахання» і, безумоўна, за Айчыну:

Узнімем іскрыстыя шклянкі
з чароўным напоем,
віваты ўрачыста прамовім,
панове ліцвіны,
на славу айчыны,
якую шляхетна адновім,
свае і чужыя адкупім
грахі і правіны…

У гэтым кантэксце «вінагроздзевай гронкай //…у клопаце Пана», здаецца, апякуецца не хто іншы як антычны бог Пан, апякун усяе прыроды, імя якому «Усё».

Але ж і «вада, налітая з мяхоў, // віном стаецца з ласкі Пана», а мы памятаем эпізод у Кане Галілейскай, і разумеем, што маецца на ўвазе Госпад Евангелля.

Рука гаспадыні бессвядома адсуне фіранку, і калі з-за яе, быццам стомлены вандроўнік, зірне «сумны запозненны лістападаўскі дзень», прысутным зашчыміць сэрца і няўзнак надыдзе хвіліна шчырай споведзі. Простыя дакладныя словы «без лоску і маны» пра ўзаеміны душы з Богам, пра пошукі прыгажосці «не ля святых дароў», пра памылкі й расчараванні.

Іду, дарожніца ў імгле,
Ружанец як ліхтар.

Штодзённая выправа ў «шлях дасканаласці», намаганні «быць добрым і справядлівым, міласэрным і споўненым любові» прыводзяць да неабходнасці «змірыцца з тым, што заўсёды знойдзецца прычына для пакаяння».

Але на гэтым шляху асягаецца мудрасць.

Я не ёсць цела,
а той, хто клапоціцца пра цела,
той, хто існуе ў чашы,
але не сама чаша,
той, каго можна выплеснуць,
і будзе жыць,
але чаша не будзе.

Чые гэта словы? Хто падказаў іх паэтцы? Можа, у сне?..

Побач з намі заўважаецца постаць, якое не заўважалі раней. У ёй пазнаецца той, хто калісьці зірнуў «з-за адсунутае фіранкі».

Здагадка працінае:

А можа, гэта
той самы Госць
па дарозе
на Эмаус?..

Праяснёны пагляд прыкмячае ў згалелым садзе «ліловы ліхтарык позняй скукарчанай слівы». Каля яго грэецца душа Лістападу…

…Адведзіны «светаміру» Ірыны Багдановіч працягваюцца на ягоных крэсах заходніх, дзе гучыць «Старапольскае рэха Беларусі» – пераклады паэтаў «беларуска-польскага культурнага памежжа» новасармацкіх часоў (18–19 стагоддзяў): Францішка Багамольца, Францішка Князьніна, Францішка Карпінскага, Яна Чачота, Адама Міцкевіча, Уладзіслава Сыракомлі, Габрыэлі Пузыні ды Зоф'і Манькоўскай. Менавіта адсюль паходзіць радок Уладзіслава Сыракомлі, прысвечаны сарматкам, што даў загаловак гэтай зацемцы.

Зацытуем трошкі болей:

Хто хоць раз яе прыкмеціць,
Захавае ў сэрцы згадкі…
Хоць кабет нямала ў свеце,
Ды найлепшыя сарматкі.

**Галіна Дубянецкая**

# «Я доўга шукаў самога сябе ў жыцці...»

(Пачатак на стар. 1)

вёскі на вучобу ў Гомель, я адчуваў ягоную падтрымку нават проста ў супадзенні прозвішчаў. На першым курсе Гомельскага ўніверсітэта Анатоль неяк так і сказаў: «Сыс, табе пашанцавала. Вучыся і не бойся нікога, а ледзь што – скажаш, што мяне, Сыса, ведаеш… А дзеўкам, як запытаюцца, гавары, што мой сваяк».

Ці былі мы сябрамі? Хіба што віртуальнымі, паколькі жыццёвыя шляхі нашыя ў больш сталым узросце пралягалі далёка адзін ад аднога і толькі зрэдку перакрыжоўваліся ці то ў Мінску, ці то ў Гарошкаве. Аднак частых магчымасцяў заставацца сам-насам і весці шчырыя размовы нават тады было небагата.

У апошнія гады ягонага жыцця сяброўскія повязі сталі больш трывалыя. Вось прыгадваю, як да матчынага дома ў Заспе, на Лугавой, з грукатам падкацілі калёсы. «Тпру, зараза бешаная», – пачуўся знаёмы голас. Выходжу з двара і шчыра любуюся Сысом. У адных драных шортах, збранзавелы, як бюст Грамыкі ў гомельскім скверыку, лысы, здаровы і «трохі ўмазаны». Толік эмацыйна прамаўляе: «Сяржук, братка, прывітанне! Кажуць суседзі, што ты быў у Гарошкаве ды не заспеў нас, дык я каня пазычыў – і да цябе ў Заспу…»

Дык кім жа ён быў для мяне насамрэч? Можа, настаўнікам? Так, магчыма. Пасіянарным паэтычным настаўнікам, кожны радок якога прымушаў мяне думаць пра паэзію, пра сэнс творчасці і сваё месца ў гэтым свеце. Але і гэта не зусім дакладна. Паколькі разам з Сысом, у мой беларускі «настаўніцкі калектыў» уваходзілі Максім Багдановіч, Аркадзь Куляшоў, Уладзімір Караткевіч, малады Алесь Разанаў, нехта, пэўна, яшчэ…

Відаць, адказ на гэтае пытанне трэба шукаць менавіта ў нашых зямляцкіх, а можа і ў нявысветленых да канца сваяцкіх стасунках. Хутчэй за ўсё ён быў для мяне Старэйшым Сысом, часткаю вялікага зямнога роду аднафамільцаў, параскіданых, нібыта драбнюткія кроплі іртуці, па ўсім свеце і якія захавалі прыродную ўласцівасць імкнуцца разам у адзіны духоўны і еднасны камяк. Адсюль бярэ пачатак і ўсё астатняе: сяброўства, зямляцтва, настаўніцтва.

**– У Вас творчая сям'я: Вашая жонка – Галіна Дубянецкая – таксама паэт. Як жывецца двум творцам, двум паэтам пад адным дахам?**

– Жывецца цесна. Але гэтая цеснata іншага кшталту, чым можна адразу ўявіць. Гэта добрая творчая цесната думак, супольнае працы, творчай палемікі, гарачых спрэчак. Цесна часам настолькі, што бывае задумваешся: ці не паглынем мы адзін аднога і ўрэшце станем нечым іншым, а не тымі, кім былі паасобку?

Вяртаючыся да пачатку гэтае размовы, зазначу, што Галіна Дубянецкая, як і я сам, вельмі доўга – два дзесяцігоддзі – ішла да сваёй першай паэтычнай кнігі. Кніга вершаў «Анадыямэна», як і многія іншыя творчыя задумы, паўстала менавіта з гэтай цеснаты, а першым і грунтоўным рэдактарам маёй «Стрэмкі» была менавіта Галіна. Усе кірункі нашага творчага супольніцтва пералічыць цяжка. Гэта і абмен ідэямі, і праца над перакладамі, дзе багаты досвед жонкі адыгрывае вялікую ролю, і пошук амаль няўлоўнага і трапнага паэтычнага слова, і сямейныя стварэнні дзіцячых вершаваных праектаў, і абмеркаванне ўсяго новага, што з'яўляецца на нашай паэтычнай планеце.

Гэты цесны дах – выключны дарунак лёсу, які стаўся нашым супольным творчым жыццём.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: logvinovpress@mail.ru,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга ноша
№ 16
кастрычнік, 2012
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 16, 30.10.2012.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com